# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1968
Студзень-Люты

Год XVI
№ 1 (106)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

**ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:**

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W- 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

**УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.**


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVI** **January—February** **№ 1 (106)**

**1968**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVI СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ № 1 (106)

# „НОВЫ ГОД — ДЗЕНЬ МІРУ“

*«Мы зьвяртаемся да ўсіх людзей добрай волі, каб іх заклікаць да сьвяткаваньня ў-ва ўсім сьвеце „Дня міру», у дзень 1-ы цывільнага году, 1-га студня 1968 году. Нашым жаданьнем будзе тое, каб гэты дзень паўтараўся, а таксама і гэтае сьвяткаваньне, кожны год, як жаданьне і абяцаньне, адчыняючы каляндар, як мера і дарога людзкога жыцьця ў дачаснасьці. Мы жадалі-бы бачыць мір зь ягонай справядлівасьцяй і дабрадзейнай раўнавагай, які павінен запанаваць у прышласьці над разьвіцьцём гісторыі . . .»*



15-га сьнежня 1967 Папа Павал VI зьвярнуўся да ўсяго сьвету — да людзей добрай волі, каб спэцыяльна пасьвяцілі адзін дзень году і то першы дзень — 1-га студня 1968 — і пасьля кожны Новы Год, як «Дзень Міру-Супакю». Папа зьвяртаецца да кіраўнікоў дзяржаваў, каб спэцыяльным урадовым актам празначылі першы дзень году на «Дзень Міру» і ў такім характары сьвяткавалі гэты дзень. І гэта не мае быць дзень вылучна каталіцкага ці нават рэлігійнага хаактару, але наагул Дзень Міру.

І гэты дзень не павінен стацца толькі пустой маніфэстацыяй — бяз глыбейшага зьместу, але сапраўдным разважным днём згоды ў дамох і ў сем'ях дый у грамадзтвах і дзяржавах, а для веручых людзей таксама днём гарачай малітвы аб згоду і мір на сьвеце.

Дзеля таго, што супакой і згода сьвету знайходзяцца ўсьцяж пад вялізнай пагрозай, дык неабходна салідна прыступіць да рэвізіі нашых адносінаў у сем'ях, у суседзтве і між дзяржавамі.

Чаго тут аднак найбольш бракуе?

Шчырасьці, справядлівасьці і любові між кіраўнікамі і падуладнымі. Такое сужыцьцё павінна ўкладвацца ў-ва ўсім разумным і чэсным грамадзтве і сьвеце, бо інакш сьвету пагражае непапраўная загуба! — А дасюль сьвет каціўся паволі і незаўважна, але нямінуча да сваей катастрофы, як-бы хочучы ўбачыць сваё ўласнае пахаваньне . . .

А фактычна сьвет становіцца фабрыкай і кірмашом ваеннай зброі-аружжа. Ці-ж гэта можа давесьці да агульнай згоды ўвесь сьвет? — Дык вялікая пара апамятацца і навярнуцца да Госпада Бога, які ёсьць адзіным Валадаром сьвету і супакою!

*

Асабліва Павал VI апэлюе да каталікоў, каб злучылі ў 1-ым дню Году свае добрыя інтэнцыі і малітвы да Божай Міласэрнасьці — да Хрыста — Спадара Супакою, Які казаў: «Мір мой даю вам — не як сьвет дае».

Павал VI зьвяртаецца да сваіх вернікаў, як апостал Павал у лістох сваіх пісаў, аднолькава паўтараючы такія словы: «Ласка вам і мір ад Бога Айца нашага і Госпада Ісуса Хрыста».

*а. А. Надсон*

# Заходняя літаратура на Беларусі у XV—XVII стаг.

У 1385 г. палякі ахвяравалі Вялікаму Князю Літоўскаму Ягайлу польскую карону разам з рукою маладой каралевы Ядвігі. Узамен за гэта Ягайла абяцаў прылучыць Вялікае Княства Літоўскае да Польшчы і ахрысьціць у каталіцкай веры этнічных літоўцаў, якія былі яшчэ паганамі. Спроба зьніштажэньня палітычнай незалежнасьці Вялікага Княства спаткалася з моцным супрацівам і яе прышлося пакінуць. З другой стараны устанаўленьне Каталіцкай Царквы прайшло пасьпяхова і ўжо ў 1387 г. Вільня мела свайго каталіцкага япіскапа.

Паяўленьне Каталіцкай Царквы ў Вялікім Княстве спачатку не датычыла беспасрэдна беларусаў, якія ужо ад канца 10-га стаг. былі праваслаўнымі. Хутка аднак і сярод іх зьявілася невялікая група каталікоў, асабліва ў асяродзьдзі блізкім да Вялікага Князя. Пасьля каталіцкія манахі францішканцы пачалі весьці пастырскую (і часта палянізатарскую) дзейнасьць сярод беларускіх мяшчанаў у вялікіх гарадах. Так напрыклад ужо ў канцы 15-га стаг. існаваў у Полацку францішканскі манастыр.

Спачатку маладая Каталіцкая Царква ў Вялікім Княстве мела патрэбу ў падтрымцы з боку палякаў. Паколькі аднак беларускія і літоўскія каталікі не адчувалі асаблівай сымпатыі да палякаў, а некаторыя ставіліся да іх проста варожа, дык адразу вынікла патрэба як найхутчэйшага ўзгадаваньня собскіх сьвятароў. Дзеля гэтага беларускія і літоўскія юнакі пачалі наведваць заходняэўрапэйскія унівэрсытэты. Унівэрсытэт у Празе Чэскай быў першым лягічным выбарам з прычыны сваей блізкасьці, а таксама таму, што ў тым часе між Вялікім Княствам Літоўскім і Чэхіяй існавалі цесныя прыяцельскія адносіны. Польская каралева Ядвіга, жонка Ягайлы, залажыла ў Празе у 1397 г. «літоўскую» калегію, купіўшы для гэтай мэты дом, які называўся «Ерусалім».[1] Гісторыя гэтай установы і яе роля ў узгадаваньні беларускага і літоўскага духавенства амаль яшчэ ня вывучаныя. У кожным выпадку ў палове 15-га стаг. ўжо некалькі дзесяткаў студэнтаў з Вялікага Княства скончылі Пражскі Унівэрсытэт.[2] Сярод іх найбольш слаўны быў хіба «Мацей з Вільні», будучы віленскі япіскап (1423—1453), ведамы з сваіх анты-польскіх настрояў. У другой палове 15-га стаг. лік студэнтаў з Вялікага Княства Літоўскага ў Празе памяншаецца з прычыны пашырэньня там гусытызму.

Другім месцам навукі быў адноўлены ў 1400 г. Ягайлам Кракаўскі Унівэрсытэт. Шматлікія беларускія і літоўскія паны, якія з падазрэньнем адносіліся да польскіх палітычных махінацыяў, падтрымоўвалі гэты унівэрсытэт, бо лічылі за карыснае мець блізка ад сваей бацькаўшчыны асяродак вышэйшай асьветы.

У другой палове 15-га стаг. назіраецца пэўная зьмена ў характары студэнтаў і сярод іх усё часьцей спатыкаюцца ня толькі кандыдаты да духоўнага стану. Іх можна было спаткаць ня толькі ў Празе і Кракаве, але і ў іншых гарадах заходняй Эўропы. Найбольш слаўным з гэтых студэнтаў быў без сумніву Францішак Скарына з Полацку, беларускі

[1] А. В. Флоровский, Чехи и Восточные Славяне, т. I, Прага 1935, б. 339.; J. Fijałek, Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę. Polska i Litwa w stosunku dziejowym. Warszawa 1914, str. 122.

[2] А. В. Флоровский, op. cit., бб. 336-339; I. Дварчанін, Беларусы на Праскім Унівэрсытэце. Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, т. 2, № 2, Нью Ёрк 1953, бб. 65-69.

---

Таксама і Пётр апостал пісаў: «Ласка і мір вам няхай памножыцца ў пазнаньні Бога і Ісуса, Госпада наша» (II Саборнае Пасланьне 1, 2).

Таксама і апостал Ян пісаў: «Няхай будзе з вамі ласка, зьмілаваньне, мір ад Бога Айца і ад Госпада Ісуса Хрыста» (II Саб. Пасл. 3).

Дык Каталіцкая Царква кліча сваіх сыноў сьвяткаваць гэты Дзень Міру ў рэлігійным духу і ў гарачай малітве і перамагаць у сабе дух сьвецкага эгаізму, дух гвалту, які даводзіць пакрыўджаных людзей да роспачы.

Бачым, як на сьвеце ламаецца права меншых і слабейшых народаў, якія дабіваюцца поўнае свабоды і незалежнасьці і як няпраўда і тэрор бяруць верх над справядлівасьцяй і праўдай, над вольнасьцяй і брацтвам.

Няхай-жа Першы Дзень Году станецца агульным знакам-сымбалем згоды, любові і справядлівасьці для ўсяго стурбаванага сьвету! І няхай на пачатку кожнага Году адбудзецца агульная малітва і мабілізацыя «добрай волі» ўсяго чалавецтва!

першадрукар, які атрымаў ступень бакалаўра вызвольных навук у Кракаве, доктара вызвольных навук на няведамым унівэрсытэце і доктара мэдыцыны ў Падуі у 1512 г. Вельмі магчыма, што такім студэнтам быў таксама Ян з Літвы, які між 1480 і 1483 г. жыў у Лёндане, дзе залажыў друкарню і выдаў некалькі кнігаў, пераважна ў галіне права.[3]

У 16-тым стаг. ўжо існаваў звычай сярод беларускіх знатных сем'яў высылаць сваіх сыноў на навуку заграніцу. Аднак ня ўсе юнакі мелі нахіл да акадэмічнай кар'еры. Некаторыя з іх паступалі на службу на розных дварах заходняэўрапэйскіх уладароў. Гэты звычай асабліва распаўсюдзіўся пры Боне Сфорца, італьянскай жонцы Вялікага Князя Жыгімонта «старога» (1506—1548)[4] і прадаўжаўся пасьля яе сьмерці. Тодар Еўлашэўскі (1546—1604) успамінае ў сваім «Дзёньніку», што ягоны сын Якім быў на службе ў князёў Гондзага у Мантуі.[5] Якуб Грасэр, які выдаў у 1615 г. у Базэлі кнігу «Аб абычаях татараў, літоўцаў і маскалёў» Міхалёна Ліцьвіна, у пасьвячэньні гэтай кнігі князю Аляксандру Пронскаму (які сам тады вучыўся ў Базэлі) піша, што бацька гэтага апошняга «. . . правёў заграніцай амаль усе гады свайго юнацтва і маладосьці . . . і калі дасягнуў сталага веку, ён павёз на паказ свае цноты на двор француcкага караля Карла IX, быццам на вялікі сусьветны тэатр».[6]

З узмацненьнем кантактаў пачалі паяўляцца беларускія тлумачэньні заходніх літаратурных і рэлігійных твораў. Сярод іх немалую цікавасьць прадстаўляе беларускі тэкст лацінскай імшы пад назовам «Як се м'ша чтеть римским бычаем матце божіей». Тлумачэньне, відаць, было прызначанае ў першую чаргу для сьвецкага верніка, бо ў ім апушчаны ўсе малітвы, якія сьвятар гаворыць ціха. Сабалеўскі, які першы апублікаваў тэкст,, адносіць яго да паловы 15-га стаг. Паводля яго, беларускае тлумачэньне было зробленае не беспасрэдна з лацінскай мовы, але з ужо існаваўшага чэскага тэксту.[7] Таксама з чэскай мовы была ператлумачана прыблізна ў тым самым часе, магчыма на загад Сонькі Гальшанскай, чацьвертай жонкі Ягайлы, «Песьня песьняў».

Няма нічога дзіўнага ў тым, што першыя тлумачэньні былі зробленыя з чэскай мовы, калі ўзяць пад увагу цесныя беларуска-чэскія культурныя сувязі, якія існавалі ў тым часе. Бязумоўна яны не агранічаліся да літургічных і біблійных тэкстаў. Сярод іншых заходніх твораў, якія трапілі на Беларусь цераз Чэхію, варта адзначыць «Повесьць аб Сывільле Прарочыцы» і «Повесьць аб Тундалю». Бацькаўшчынай гэтай апошняй была Ірляндыя 12-га стагодзьдзя. У повесьці гаворыцца аб рыцару Тундалю (у беларускім перакладзе яго імя пішацца Таудал) «роду словутного але дел велми недобрых, по телу витяжный а велми смелый, а о спасеніи своея душа мало або ничего несмотряше». Вось гэты рыцар, калі аднаго разу гуляў у доме свайго прыяцеля, упаў у глыбокі сон, у якім ён прабыў тры дні. У міжчасе ягоная душа выйшла з цела і ангел павёў яе па пекле і чысьцы, паказваючы розныя страшныя мукі грэшнікаў. Вось для прыкладу апісаньне адной з такіх мукаў:

«Отидоста не меюще жадное светлости нижли от ангела. И пріидоша да долу прелиш грозного а велми темного, а тот бяше велми глубокій а полон горящого углія, а на том долу покрывало железное толстотою пядесять локоть, а то своею горкостю примогаше. Ту бяше от того покрывала такій смрад, і што бяше душа терпела всех мук, премогал тот смрад. А в тот дол грозный что под покрывалом идяху много души грешных, а натом покрывале горящем паряху іх, якобы оскварок в панви. С того всего еще бяше наигорше, иже скрозе то покрывало цедяху тіи души, яко воск скрозе плат цедят. Апять там ся обновляху во огни к мукам. Тогда ангел к душе рече: та мука есть враждебников приготована отцов а брати а иным тым, которыиже даремно поволне враждуют делом».

Калі Тундаль абудзіўся, ён прызваў да сябе «брата Марка» і расказаў яму ўсё што бачыў, а той запісаў ягоны расказ па лаціне.

«Повесьць аб Тундалю» была шырока ведамая ў сярэдніх вяках у заходняй Эўропе, асабліва пасьля таго, калі ў палове 13-га стаг. Vincent de Beauvais уставіў яе ў сваё „Speculum Historiae“. Яна была ператлумачаная на розныя мовы, у тым ліку і на чэскую. З чэскага

[3] Г. Піхура, Ян з Літвы. Божым Шляхам, № 3, Лёндан 1965, бб. 4-8.

[4] гл. Wł. Pociecha, Królowa Bona, t. 4, Poznań 1958 str. 187.

[5] гл. Дневник Новгородского подсудка Федора Евлашевского. Киевская Старина, т. 14, № I, Киев 1888, б. 158.

[6] Michalonis Lithuani De moribus Tartarorum, Lithuanorum et Moschorum Fragmina X... per I. Jac. Grasserum, C. P., ex manuscripto autentico edita. Basileae ... MDCXV (уступ).

[7] А. И. Соболевский, Старшие переводы русских католиков. Сборник Отд. Русс. Яз. и Слов. Имп. Ак. Наук, т. 88, № 3, Спб. 1910, бб. 193-203; гл. таксама А. Надсон, Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства 15-га стагодзьдзя, Божым Шляхам № 3, Лёндан 1966, бб. 8-10.

тэксту быў зроблены беларускі пераклад, праўдападобна ў другой палове 15-га стаг. Захаваўся няпоўны паасобнік, частку якога выдаў Брукнэр у 1891 г.,[8] зазначаючы, што «тое, што мова ёсьць беларуская, або літоўска-руская, мова Скарыны і яго сучасьнікаў, не патрабуе асаблівага доказу».[9]

«Сказаніе о Сивилле пророчици» належыць да ліку г. зв. псэўда-прароцкіх кнігаў. Пачынаецца твор расказам аб тым, як «за мудрого царя Саломона беяше пророчица звездарка именем Сивилла, а та бяше велми мудра ... и бяше красна, а богата, але едину ногу на подобенство гусину ногу мела». Яна чула аб мудрасьці Саламона і вырашыла адведаць яго. Саламон прыняў яе вельми ветлива, але адмовіўся гутарыць перад абедам. Калі яны ішлі разам у палац, ім прышлося перайходзіць цераз «адамава дрэва». Салямон перайшоў, але Сывілла ўстрымалася. І вось «в тот час стал ся есть див от Бога, иже Сивилле гусина нога есть была уздравлена». Салямон бачыў усё гэта, але не сказаў ні слова і толькі пасьля абеду запытаў: «Сивилло повеждь, что еси то уменила, иже еси со мною через тое древо не шла». Сывілла адказала: «Ведай царю, иже ся маеть дитя ис тебе на тоито свет народити з девы, а маеть умрети на том древе». Тады на просьбу Салямона, яна пачала адкрываць яму будучыню, гаворачы аб нараджэньні Хрыста, аб лёсе жыдоўскага народу, аб паяўленьні Антыхрыста, другім прыходзе Хрыста і аб канцы сьвету. Сярод адзнакаў гэтага апошняга здарэньня няцяжка распазнаць нямецкія сялянскія бунты і пачатак рэфармацыі. Паколькі падобныя «прароцтвы» паяўляліся звычайна пасьля факту, дык «Сказаньне аб Сывілле« трэба аднесьці да першай паловы 16-га стаг. Карскі, які першы апублікаваў тэкст «Сказаньня», думаў, што беларускі пераклад быў зробленым з сэрбскага арыгіналу.[10] Аднак Фляроўскі, пасьля параўнаньня беларускага тэксту «Сказаньня» з двумя падобнымі — але не ідэнтычнымі — чэскімі, прыйшоў да перакананьня, што арыгіналам для яго паслужыў чэскі тэкст, сяньня загублены.[11]

Чэская мова ня была адзінай, з якой беларусы рабілі свае пераклады. Некаторыя творы былі пертлумачаныя беспасрэдна з лацінскай мовы. Такім ёсьць, напрыклад, «Жыцьцё Аляксея чалавека Божага». Беларусы былі знаёмыя з гэтай легендай яшчэ у 11—12 стаг., аднак новы пераклад быў зроблены ў другой палове 15-га стаг. з лацінскага тэксту, які знайходзіўся у „Legenda aurea Iacobi de Voragine“.[12] Гісторыя маладога знатнага рымляніна Аляксея, які ў хвіліне свайго найбольшага зямнога шчасьця пакідае ўсё і праводзіць рэшту свайго жыцьця жабраком, жывучы доўгі час непазнаны пад сходамі ў доме свайго бацькі, цешылася вялікім посьпехам сярод беларусаў і дала пачатак шматлікім духоўным песьням.

Другім творам пераведзеным з лацінскай мовы была «Повесьць аб трох каралях».[13] Назоў арыгіналу ёсьць „Liber de gestis ac trina beatissimorum trium regum translatione“, і напісаў яе нямецкі кармэліцкі манах Johannes von Hildesheim (прыбл. ў 1375 г.). У асноўным гэта расказ, поўны легендаў і фантазіі, аб трох каралях, якія, ведзеныя зоркаю, прышлі ў Бэтлеем пакланіцца нованароджанаму Хрысту. Іхнюю бацькаўшчыну аўтар называе «Індзіяй», уключаючы ў яе такія краіны, як Нубія і Тарсіс. Пасьля пакланеньня каралі вярнуліся дамоў і шмат гадоў пасьля яны былі ахрышчаны сьв. Апосталам Тамашом і нават сталі архіепіскапамі. Другая частка кнігі расказвае аб тым, як сьв. Галена знайшла ў 4-тым стаг. іхнія мошчы і прывезла іх у Канстантынопаль. Адтуль яны былі перабезеныя ў Мілан і наканец знайшлі сваё апошняе месца адпачынку ў Кэльне. Канчаецца кніга апісаньнем абычаяў розных народаў, зьвязаных з культам трох каралёў і пахвалаю гораду Кэльну. Гісторыя перапоўнена багацьцем апісаньняў розных мясьцінаў і здарэньняў. Некаторыя з гэтых апісаньняў ёсьць зусім фантастычныя, іншыя маюць падабенства праўды, як напрыклад, апісань-

---

[8] A. Brückner, Visio Tundali in böhmischer und russischer Übersetzung. Archiv für Slavische Philologie, Band 13, Berlin 1890-91, S. 199-212.

Арыгінальны беларускі назоў твору ёсьць: «Починается книга о Таудале рыцери».

[9] „Dass die Sprache sogenanntes weiss – oder litauisch-russisch ist, die Sprache des Skorina und seiner Zeitgenossen, bedarf keines besonderes Nachweisen„. Brückner, op. cit., S. 208.

[10] Е. Ф. Карский, Западнорусское сказание о Сивилле пророчице по рукописи XVI-га в., Варшавские Университетские Известия, № 2, Варшава 1898, бб. 1-32. Артыкул перадрукаваны ў: Е. Ф. Карский, Труды по белорусскому и другим славянским языкам, Москва 1962, бб. 316-339.

[11] А. В. Флоровский, op. cit., т. II, Прага 1945, бб. 31-35.

[12] Тэкст гл.: П. В. Владимиров, Житие св. Алексея человека Божия в западнорусском переводе конца XV века, Журнал Министерства Народного Просвещения, ч. 253, СПб. 1887, бб. 250-268; В. Перетц, Повесть о трех королях-волхвах в западнорусском переводе XV века, СПб. 1903, бб. 108-111; А. Ф. Коршунаў, Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, Мінск 1959, бб. 408-411.

[13] Поўны тэкст гл. В. Перетц, op. cit. Выняткі тэксту і камэнтары: Е. Ф. Карский, Западнорусский сборник XV в., Сборник ОРЯС, т. 65, СПб. 1889, бб. 1-73; артыкул перадрукаваны ў: Карский, Труды ... бб. 263-315.

не ясьляў, куды Багародзіца палажыла нованароджанага Хрыста:

«Да теж у ведоме маеть быти, иже во всих сторонах усточных есть обычаи, иже во всих стаинях суть многіе іаслі деревяне и каменые, да кажныи іасли суть на трех ступенех на должину так иже кажныи кон албо осел маеть свае апрышные іасли; да такое одны ясли от стародавна ещо там былі зосталі, у которыеж панна Маріа сына своего склонила».

Ня меньш цікавымі ёсьць апісаньні абычаяў розных народаў, зьвязаных з культам трох каралёў. Вось для прыкладу абычаі грэкаў (г. зн. праваслаўных):

«Попове грецке суть жонаты, а носяць долге волосы да не верать штобы святыи дух от отца и сына походил, але толко от отца. Теж не верать штобы чистець был, да тыми члонки от церкве римске суть отделены. Да коли мшу держати хотять тогды вырежуть с кислого хлеба гостію албо оплаток на чотыри углы на посвященіе да тую гостію кладуть на блюдечко золотое албо серебреное, да наверх положать звезду какбы сковорода загнутую, накривши чистым платьем, да по офферторыи уздоимуть блюдо с оплатком и звездою наверх головы, и с кадильницами и свечами з велікою пилностію почтивостію несуть через церковь аж до олтаря. Тогды весь люд падуть на землю на лице свое, да то чинять на знамя, занюж три короли Господа ис дары искали, которые звезда аж до ясел проводила, да там падше землю пред ним целовали . . .».

«Повесьць аб трох каралях», з сваім багацьцем вестак аб дзіўных краінах і здарэньнях, павінна была быць вельмі цікавай для сярэднявяковага чытача, задавальняючы ягоную прагу няведамага і незвычайнага. Таму няма нічога дзіўнага, што яе тлумачылі на розныя мовы, сярод якіх была і беларуская.

Беларускі пераклад «Повесьці аб трох каралях» быў зроблены напэўна ў другой палове 15-га стаг. Да гэтай самай пары трэба аднесьці іншы твор заходняга паходжаньня — «Мукі Хрыстовы».[14] Лацінскі арыгінал «Мукаў» не знойдзены і Карскі склонны думаць, што беларускі тэкст зьяўляецца не перакладам, але кампіляцыяй няведамага беларускага аўтара з розных лацінскіх апакрыфічных крыніцаў яшчэ дакладна не ўстаноўленых, хоць адной з іх было напэўна г. зв. «Евангельле Нікадзіма».[15] Мова «Мукаў Хрыстовых», як і мова «Повесьці аб трох каралях», мае досыць шмат палянізмаў. Гэта зразумела, калі ўзяць пад увагу, што аўтар твору быў беларускім каталіком, які магчыма правёў шмат часу ў Польшчы, а можа нават там вучыўся. Няма аднак асновы цьвердзіць, як гэта робіць Брукнэр, што беларускі тэкст зьяўляецца перакладам з нейкага няведамага польскага арыгіналу.[16] Пачынаецца расказ тым, як Юда пайшоў да жыдоўскіх сьвятароў і запрапанаваў выдаць ім Хрыста. Жыды абяцалі яму за гэта трыццаць сярэбраных грошаў. Юда згаджаецца і чакае, пакуль іх яму прынясуць. Вось-жа гэтыя сярэбранікі ня ёсьць звычайныя, але тыя самыя, за якія некалі сыны Якуба прадалі свайго брата Язэпа ў ягіпскую няволю, «которыя пенязі, колько тысящи лет у скарбех их лежали замкнутые, занюж тые пенязи от братов Езопа, через отцев старого закону исходяче от одного до другого, дивно неразлучены прешли до Соломона коли церков божью будовал, да через того Соломона у скарб были уложоны и схованы так долго аж до преклятого Юды пришли, коли милостивого Бога за них продал».

Узяўшы грошы, Юда сказаў жыдом: «Я вам обецал есмы того выдати а хочу тое рад учинити. Протож коли будете хотели имати Іисуса, штобы есте не изымали Якова, занюж подобны суть собе у виденьи. Протож поиду я перед слугами вашими, да то им за знамя даваю, которогонь коли поцелую, того нехаи зымають, да безпечне поведуть. Але то собе вымовляю, хотя бы так ушол албо убегл слугам вашим, штобы однаково у менежь пенези зостали, штобы ми есте не отимали».

Далей ідзе адступленьне, у якім апісваецца агіднасьць учынку Юды. Між іншым там ёсьць такі зварот да Багародзіцы: «Маріа матухно милостивая, што бы ты ведала иже сын твой скарб небесныи за так марные пенязи мел продан быти, верно бы была бежала дом от дому просячи и жебруючи, а тую тридцать пеназии збираючи, Июде преганебному дала бы еси была, а твоего милого сына выкупила бы еси от его мошны».

Зрабіўшы сваю справу, Юда вяртаецца у Бэтанію. Там спатыкае яго Багародзіца, якая, нічога не падазраючы, «паздравила его велми ласкаве, привитала его рекучи: О милыи приятелю, што еси там в Ерусолиме о моем сыне чувал албо слышал. Юда отповедал:

[14] Поўны тэкст гл. Н. Тупиков, Страсти Христовы в западнорусском списке XV века, СПб. 1901.

[15] Е. Ф. Карский, Западнорусский Сборник...

[16] A. Brückner, Passio Christi in polnisch und russisch, Archiv für Slavische Philologie, Band 11, Berlin 1888, S. 620-622.

А. Брукнэр сам прызнаецца, што ня бачыў поўнага беларускага тэксту, а толькі кароткія выняткі.

Все добро деется, наимилеишая госпожо, не боися ничого».

Наступна ідзе расказ аб тым, як Хрыстос падрыхтоўваўў Багародзіцу да сваей мукі і крыжовай сьмерці і як яна прасіла яго ня ісьці ў Ерузалім, прызываючы на помач Марыю Магдалену і нават архангела Гаурыіла. Але ўсё гэта дарэмна: Хрыстос ідзе ў Ерусалім, дзе пасьля апошняй вячэры, яго арыштоўваюць, судзяць, мучаць і прыбіваюць да крыжа. Багародзіца ўсюды знайходзіцца блізка Хрыста і яе цярпеньні і перажываньні апісваюцца вельмі абшырна. Вось, для прыкладу, плач Маці Божай пры крыжы:

«Протож милостивая матка плакала рекучи и говорила плачучи: Сыну мой сыну наимилеишіи, и кто ми дасть иж бы х умерла за тебе. Беда мне бедници што учиню, сыну мои милыи, не опускаи мене, але утягни мене за собою абых я умерла с тобою, штобы ты сам не умерл, нехаи умреть тая твоя матка. О бедная смерти, не препускаи и мене, бо ты ныне теперь сама надо вси речи люба еси, вси силы удручи матку, матку из сыном умучи пospолу. Сыну солодкости единения, питомыи пребыток мои, радость живота моего, потехо душе моее, учинь то што бых я умерла с тобою, которая на смерть породила есмы тебе. О сыну мои наимилеишии, узнаи бедную матку свою, а выслухаи молитвы моее, слушаеть бо на сына выслухати матки опущеное. Выслухаи мя, прошу тя сыну милыи, да прими мене на свои крест, штобы которые в одном теле живуть, да одною се милостію милують, одною бы смертию загинули».

Другая частка пачынаецца паўтарэньнем расказау аб муках Хрыста, хоць тут ужо Багародзіца адсоўваецца на другі плян. Далей гаворыцца аб зыходзе Хрыста ў пекла і ўваскрашэньні душаў праведных, паводле сьвядоцтваў двух уваскросшых братоў Карынуса і Ленцыюса, сыноў Сымона Богапрыімца. Ёсьць тут таксама памешчанае пісьмо Пілата да Тыбэрыя і расказ аб далейшым лёсе Язэпа Арыматэйскага. Уканцы знайходзіцца заўвага, што усё гэта напісаў Нікодым па жыдоўску. Гэта навяло на думку першых дасьледнікаў быццам «Мукі Хрыстовы» ёсьць не што іншае, як беларускі пераклад апакрыфічнага «Нікодымавага Евангельля». У сапраўдансьці-ж гэты твор быў толькі адной з крыніцаў, якой карыстаўся беларускі складальнік. Дакладнае вывучэньне усіх іншых крыніцаў чакае яшчэ свайго дасьледчыка.

*(Канец будзе)*

*Юрка Віцьбіч*

# Ня змоўклі Віцебскія арганы

*«Хваліце Яго на гучных кімвалах;*
*хваліце Яго на кімвалах галосных»!*

Псальм — 150:5.

Слынны пісьменьнік Іван Бунін аб сваім рамане «Жыцьцё Арсеньнява», за які ён атрымаў Нобэляўскую прэмію, гаварыў: — Гэта ня аўтабіяграфія, а тым балей ня фатаграфія майго юнацтва». На думку вядомага Кірыла Зайцева — у «Жыцьці Арсеньнява» усё біяграфічнае дарэшты перагарэла ў полымі мастацкай творчасьці». Няўжо дарэшты? Досыць пазнаёміцца з кніжкай «Жыцьцё Буніна», напісанай ягонай жонкай В. Мурамцавай, каб пераканацца, што жыцьцёвыя шляхі Арсеньнява й Буніна бадай цалкам супадаюць паміж сабой.

У «Жыцьці Арсеньнява» Бунін піша:

«Так, і я калісьці да гэтага сьвету належыў. І нават чуўся палымяным каталіком. Ні Акропаль, ні Баальбэк, ні Фівы, ні Пэстум, ні сьвятая Сафія ў Царградзе, ні старыя цэркву ў расейскіх Крэмлях і дагэтуль няпараўнальныя для мяне з гатычнымі катэдрамі. Як уразілі мяне арганы, калі я ўпяршыню (за юнацкія гады) апынуўся ў касьцёле, хоць гэта быў усяго толькі касьцёл у Віцебску!

Малады Арсеньняў трапіў у Віцебск, як на першы погляд, дык зусім выпадкова:

«Застацца? — раздумваў я ў Смаленску.

— Не, далей у Віцебск!

«У Віцебск я прыехаў адвячоркам. Вечар быў марозны, сьветлы. Усюды было вельмі сьнежна, глуха й чыста, нечапана, горад здаўся мне старажытным і не расейскім: высокія, разам зьлітыя дамы з крутымі дахамі, зь невялікімі вокнамі, з глыбокімі й нязвычайнымі паўкруглымі брамамі ў ніжніх паверхах».

«Цямнела, я прыйшоў на невядомую плошчу, на якой узвышаўся жоўты касьцёл з дзьвюмя званіцамі. Увайшоўшы ў яго, я пабачыў паўзмрок, шэрагі лаваў, уперадзе на прастоле паўкруг агеньчыкаў. І адразу спакваля, задуменна запяялі недзе нада мной



*Касьцёл сьв. Антона Падуанскага.*

арганы, паплылі прыглушана й плаўна, потым пачалі ўздымацца, расьці — жвава, мэталічна, нібы аслабаняючыся з-пад чагосьці, што прыгнечвала іх, а потым раптам вырваліся й гучна разьліліся нябеснымі вялічаньнямі... У змроку абапал грубых каменных калёнаў, што ўходзілі ўпярод і ўгору, губляючыся ў цемры, чорнымі зданямі стаялі на цокалях нейкія жалезныя панцырнікі. У вышыні над аўтаром змрочна памірала вялікае шматкаляровае вакно».

На жаль Арсеньняў перш чым патрапіць у у Віцебскі касьцёл Антона Падуанскага амінуў старадаўнюю царкву Дабравешчаньня, што знаходзілася паблізу ад ягонай дарогі. З давен даўна вольналюбныя віцебляне ішлі ў бой з крыкам:

— Памром за сьвятое Дабравешчаньне!

Адзін з прывілеяў славутага Вітаўта адзначае іхні сталы звычай распачынаць усякую справу сьпярша:

«Сьвятому Дабравешчаньню чалом ударыўшы».

У гэтай царкве маліліся Аляксандар Неўскі й Альгерд Вялікі, жанаты з дочкамі Віцебскіх князёў. Аб ёй жа згадвалася на знаным Канстанцскім саборы, на якім Яраніму Праскаму закідалася тое, што наведаўшы яе ў 1423 г. ён пасьля называў праваслаўных «добрымі хрысьціянамі». І яе бязьлітасна разбурылі бальшавікі ў сьнежні 1961 г. А каб тады Арсеньняў, у той зімовы вечар, зайшоў у гэтую бяз малага тысячагадовую царкву, дык пачуў-бы адно з найбольш выдатных і чульлівых выслаўленьняў праваслаўнай богаслужбы:

«Сьвеце ціхі сьвятыя славы Несьмяротнага, Айца Нябеснага, Шчаснага Ісусе Хрысьце! Прыйшоўшы на захад сонца, пабачыўшы сьвет вячэрні».

Але-ж ніхто акрамя Буніна й бальшавіцкіх цэнзараў ня ў стане зьмяніць Віцебскі маршрут Арсеньнява.

Віцебскі касьцёл, пасьвячаны ў імя сьвятога Антона Падуанскага зь Лісабону, пачалі будаваць у 1731 годзе манахі бэрнардыны. Праз два гады, як згадваецца ў тутэйшым «Летапісу Сьцяпана Аверкі»:

«У лета 1733 травеня 31 дня, па старому каляндару, на 8-мы дзень пасьля сьвята Божага Цела выгарэў горад Віцебск: ратуша, рынак, крамы й цэркві ад вялебных айцоў бэрнардынаў, якія рабілі арганы дый зайгралі на ўвесь сьвет».



*Касьцёл сьв. Антона Падуанскага (ўнутры).*



*ВІЦЕБСК. Зълева направа: Уваскрэсенская царква, ратуша, касьцёл съв. Антона Падуанскага.*

Аднак лёс у сваю чаргу пажартаваў над Сьцяпанам Аверкам, зьмяніўшы ягоную гіронію на прароцтва. Невядомы натхнёны арганісты з «Жыцьця Арсеньнява» запраўды зайграў на арганах віцебскіх бэрнардынаў на ўвесь сьвет, за вылучэньням СССР. Савецкая цэнзура, прэпаруючы для падсаведскіх чытачоў творы Буніна, не дазволіла Арсеньняву пачуць іх.

Пасьля пажару касьцёл Антона адбудавалі ў 1736 г. у стылі барока, без якога нельга ўвогуле ўявіць сабе гарады Беларусі, але разам з тым ён усё-ж менш цікавы за іншыя барочныя сьвятыні Віцебску. Супраць яго, на тэй-жа Рынкавай плошчы мелася ад 1772 г. нязвычайна лёгкая па сваіх паасобных прапорцыях, нібы мярэжыстая Ўваскрасенская царква, якую пабудаваў беларускі дойлід Мікола Струк. У народзе аб ёй захавалася паданьне, што яна вельмі спадабалася ў 1812 г. Напалеону і ён забараніў скарыстаць яе пад вайсковы шпіталь. Яе — дасканалы барочны помнік беларускага паходжаньня — бальшавікі падарвалі аманалам у 1936 годзе. У тым же годзе яны зруйнавалі дашчэнту велічны Ўсьпенскі сабор, які, знаходзячыся на высокім ды стромкім беразе Дзьвіны, панаваў над усім Віцебскам і быў пабудаваны ў 1750 г. для манахаў базыльянаў італійцам Фантані.

Таму ў 1939 г. навуковая экспедыцыя па ахове помнікаў гісторыі й мастацтва ўзяла пад сваю абарону цудам не разбураны касьцёл Антона. За год перад тым тутэйшыя гарсаветчыкі, з дапамогай падатковага ціску, адабралі яго ў вернікаў і пачалі перарабляць пад фізкультурную залю мэдычнага інстытуту. Ня мелася ўжо ў ім тады ні ягоных дзевяці аўтароў, ні мілагучных званоў і арганаў, ні выдатных абразоў работы славутага італійскага мастака Сальватара Розы, але ўцалеў самы будынак з крыжамі на кумпалах. Пасьля гэтага ў паруганым Доме Божым знаходзіўся антырэлігійны філіял Віцебскага музею. На пацеху хрыстапрадаўцам тут экспанаваліся мошчы сьвятой Еўфрасіньні-Прадславы князёўны Полацкай. У пачатку вайны беларусы каталікі выкінулі адсюль на сьметнік усе камуністычныя бэбухі і ў часе адноўленых набажэнстваў замест арганаў ка-

рысталіся фісгармоніяй. А праваслаўныя беларусы ўрачыста й пабожна перавезьлі мошчы сьвятой Еўфрасіньні ў Полацк, у ейную царкву Спаса, пабудаваную для яе дойлідам Іванам.

Будынак былога касьцёлу Антона Падуанскага захаваўся й па вайне, але зьнішчаны ягоныя зграбныя званіцы, у якіх барока знайшло свой найбольшы адбітак. Загінула й шматкаляровае вакно, што зьяўлялася, магчыма, пачаткам усіх сучасных вітражаў віцебляніна Марка Шагала, ад катэдры ў Мэце да сынагогі ў Айн-Карыме. На шмат якіх малюнках гэтага сусьветнай вядомасьці мастака, замілаванага на ўсё жыцьцё родным Віцебскам, можна пабачыть зьнявечаны цяпер касьцёл Антона. І каб нават аджылі сярэднявечныя панцырнікі, дык і яны-б ня выратавалі яго ад канчатковага апаганеньня бальшавіцкімі вылюдкамі, але назаўсёды, хоць і безназоўным, застаўся ён у «Жыцьці Арсеньнява», а таму дагэтуль чуе ўвесь сьвет ягоныя цудоўныя арганы.

У самы Віцебск юнак Арсеньняў трапіў наўмысьля, а ня выпадкова. Помніце, як ён кажа:

«Потым у Віцебск, Полацак...
— Навошта?
— Ня ведаю. Перадусім мне вельмі падабаюцца самыя словы: Смаленск, Віцебск, Полацак . . . ».

Не падлягае сумлеву, што справа тут ня ў самым гучэньні, як той маўляў, вышэй адзначаных гэаграфічных назоваў па Рыга-Арлоўскай чыгункі Расейскай імпэрыі.

З «Гэрбоўніку дваранскіх родаў» даведваемся, што:

«Род Буніных паходзіць ад Сямёна Бункоўскага, мужа знатнага, які выехаў у 15-м стагодзьдзі зь Літвы са сваёй дружынай на ратнюю службу да Вялікага Князя Маскоўскага Васіля Васільевіча».

Аб тым жа згадвае й сам Бунін у сваёй прадмове да кніжкі «Увясну, у Юдзеі», выдадзенай у 1952 г. у Ню Ёрку. Як вядома гэты самы род даў таксама паэту В. Жукоўскага — пазашлюбнага сына абшарніка А. Буніна й палонянай турчанкі Сальхі.

І ці ня кроў продкаў прымусіла Арсеньнява (Буніна?) паехаць у Смаленск, Віцебск, Полацак — слаўныя гарады калісьці магутнай і грознай Літвы?

---

*Б. Прытыцкі*

# «Дзе Ён быў?»

Гэта здарылася ў Заходняй Нямеччне у ваколіцы Кобленц, пры схілку ІІ-ой сусьветнай вайны ўвосені 1944, калі мяне і многа іншых нашых перад надыходам амэрыканцаў забралі ад францускай граніцы ў Рэйх, і мы швэндаліся ня прыдзеленыя да ніякай працы.

Была цудоўная асеньняя раніца. Сонца залаціла сваімі касулькамі і агравала стомленую зямлю, якая была ўжо гатова на зімовы адпачынак. І вось прыгожая ранічка прыбліжалася к абеду, а сымфонія самалётаў у паветры (амэрыканскіх), як і кажнага дня, бяз перапынку, а тым больш ў такі ясны, звонкі дзень, пагражала нечым фатальным і пагібельным.

Цывільныя работнікі, званыя «Ост» (усходнія славяне: было там нямала і нашых суродзічаў з Савецкае Беларусі), — больш тысячы чалавек — маладых і старшых мужчын, прыгнаных на малую станцыю чугункі, пасьпешна працавалі, каб паправіць пашкоджаную бомбамі дарогу.

Вось і я выбраўся прайсьціся ў такі сонечны дзень і накіраваўся да той самай станцыі, дзе працавалі нявольнікі. Здаволіўшы сваю цікавасьць, я накіраваўся ў старану футара, дзе араў юнак, сын нямецкага селяніна.

А найбольш трагічным было тое, што на тэй станцыі — на запасных лініях — стаялі непарушаныя тымі бомбамі тры транспарты амуніцыі, якія былі прышыкаваныя на фронт: іх трэба было насьпех адсюль сьцягнуць, але дарога была папсаваная.

Праца там з папраўкай дарогі і рэяк ішла марудна і цяжка, бо ніякіх машын ні прыладаў не давалі — рабілася ўсё рукамі. А да таго капэля самалётаў кружыла над станцыяй і надавала свой сьмяротны канцэрт; але нявольнікі не маглі пакінуць мейсца, бо вартаўнікі тымбольш падганялі: «Лёс, шнэль!» — І найгорш, што самалёты мала аддаляліся, а гэта вельмі нэрвавала працаўнікоў. І ў гэтым-жа часе пасажырскі цягнік

прагрукатаў праз станцыю вольнай лініяй, не затрымаўшыся.

Самалёты, відаць, на яго чакалі, але памыліліся, бо ён праляцеў пяруном! І толькі ў сьлед яму пасыпаліся бомбы, з чаго паўстала страшэннае пекла, бо трапілі неспадзявана ў тыя тры транспарты амуніцыі цяжкога і лёгкага калібру. Паўстала нязвычайнае трагічнае відовішча: вагоны распырсківаліся ў-ва ўсе бакі, як маленькія цацкі. Як з вулькану вырываліся ў высь агонь, зялеза і чорны дым — можа на паўкіляметра — і ўсё гэта зараз сыпалася на зямлю, прычыняючы страшэнныя раны нявольнікам, бо толькі нямногія зь іх мелі шчасьце ацалець! І толькі тыя асталіся жывымі, што пасьпелі ў апошні момант ускочыць у выкапаныя глыбокія ямы, аднак і з тых значная частка была засыпана зялезам, якое валілася зьверху.

А ў гэтым фатальным часе лётчыкі цешыліся сваім дасягненьнем і спадзяваліся мэдаляў заслугі... Яны яшчэ доўга кружылі і фільмавалі плён сваей жудаснай працы.

Я-ж у той час быў недалёка хаты маладога юнака, што спакойна араў; але цяпер ён ужо затрымаўся і толькі ўглядаўся на зьявішча як зачараваны і раздумваў. — Ён быў задалёка, каб тое няшчасьце яго чапіла. Аднак яму ня прышлося доўга думаць, бо адзін лётчык накіраваў самалёт у ягоны бок і затракатаў сваей машынкай, якая сыпала кулі на зямлю. Аднак лётчык пабіў толькі коней, бо малады араты ўжо бег дарогай к сваей хаце. Відаць, ён змогся, бо кінуўся пад прыдарожны крыж. І вось тут лётчык спусьціўся ніжай дый зноў густа затракатаў з кулямёту.

Ягоная матка, пачуўшы жахлівы сьвіст самалёту над хатай, выскачыла на двор. І на дзіва, свайго сына пры плугу не пабачыла! Пачала бегчы ў тую старану, дзе быў ейны сын і тут-жа пад крыжам знайшла яго нежывога! Узяла на рукі цела забітага, шукаючы знакоў жыцьця, але надарэмна! Залямантавала немым голасам. І зараз падняла галаву дый паглядзела на фігуру Хрыста, аблітага крывёю — укрыжаванага, і проста пагразіла кулаком, кажучы: «Дзе Ты быў, Хрысьце, як майго сына лётчык забіваў?!»

Я-ж падыйшоў да яе і спакойна адазваўся: «Не дадавай большага болю, бо і так яго занмога!»

Але яна пачала мацней лямантаваць і паказала на фігуру Хрыста: «Дзе Ён быў тады, як майго сына забівалі?!»

Але я і далей спакойна адказаў: «Ён быў тут і Ён бачыў усё і ня перашкодзіў, так як Нябесны Айцец быў і ўсё бачыў, як жыды мучылі і сьмяяліся зь Ягонага Сына, крыжавалі і забівалі на гарэ Гальгофе. І тады Бог Айцец ня перашкодзіў нягодным людзям».

Сапраўды, дзіуныя справы Божыя! Вось быў я там, дзе рваліся бомбы і тут, дзе сыпаліся кулі і я ацалеў!... Бо на час небасьпекі быў я аддалены. Значыць, такі лёс і такая Божая воля.

І разважаю: Чаму і цяпер нягоднікі-атэісты ў Савецкім Саюзе пазамыкалі сьвятыні, разбурылі іх ці замянілі на салі танцаў, на склады, ці бязбожна апаганілі? Сьвятароў і вернікаў паразганялі, пазамыкалі ў вастрогі і лягеры, а каторыя асталіся, прасьледуюць, шукаючы прычыны, каб арыштаваць дый увязьніць.

Усё гэта дзеецца таму, што Бог даў чалавеку на зямлі вольную волю і яе не адбірае, ані перашкаджае яму, нават найгоршаму злачынцу. Чалавек робіць, што толькі хоча. Заслугу або кару чалавек атрымае па сьмерці. І якое было ягонае жыцьцё, такая будзе яму і ўзнагарода.

Нью Ёрк. 26. XII. 1967.

*Праф. Эміль Цяўлоўскі*

# Сьвятыня эмігрантаў

« ... esperta anche Tu dell'esilio,
sii madre amorosa... veglia...
su quanti il bisogno disperde... »

PIUS P.P. XII
(Dalla Preghiera alla Madonna degli Emigranti)




SACRA EFFIGIE SOLENNEMENTE INCORONATA IL 9 OTTOBRE 1955 DALL'ARCIVESCOVO G. B. MONTINI - ORA PONTEFICE MASSIMO - CON LE CORONE D'ORO BENEDETTE DA S. S. PIO XII

У І-ую нядзелю адвэнту (летась 3-яга сьнежня) прыпадала ў Аргентыне «Сьвята Эмігрантаў». Пазамінулага году падчас гэтага сьвята быў паложаны камень, пасьвячаны ў Рыме Папай Паўлам VI, пад будову сьвятыні. А цяпер, 3. XII. 1967, адбылася вялікая ўрачыстасьць пасьвячэньня пабудованага ўжо касьцёла МАЦІ БОЖАЙ ЭМІГРАНТАЎ.

На ўрачыстым акце былі прысутныя: прэзыдэнт Аргентыны генэрал Онганія, кардынал Каджыяно, міністры, дыпляматычны корпус, войска ў гістарычных уніформах, дэлегацыі этнічных (эмігранцкіх) групаў са сваімі сьцягамі, прадстаўнікі прэсы і тысячы народу.

Сьвятая Літургія, урачысты акт — усё гэта паказвае, што жыцьцё ў гэтым краі ўкладаецца для эмігрантаў у духу хрысьціянскім, з любоўю да бліжняга. Але я тут маю на думцы толькі тое, што датычыць беларусаў.

1) *Мейсца Сьвятыні*

Ля Бока — гэта партовы раён у Буэнос Айрэс, сьцісла зьвязаны з гісторыяй нашае эміграцыі. Тут, недалёка на ўзгорку ёсьць праваслаўная царква, пабудаваная за рас.-царскія грошы для грэцкіх маракоў; цяпер ў руках праваслаўных эміграцтаў на чале з сьвятаром з Гарадзеншчыны. Праз гэты порт праплывалі амаль усе тутэйшыя эміграцты.

Тут у часе трагічнага безпрацоўя былі бясплатныя кухні, дзе эміграцты прыходзілі па хлеб, суп, мяса і мату (мясцовая гарбата).

Ад 1947 да 1952 сюдою прыяжджала новая эміграцыя, але камуністы арганізавалі баёўкі, каб штучным спосабам апаганіць Аргентыну і вярнуць людзей у Савецкі Саюз. Таксама людзі са старой эміграцыі прыяжджалі сюды з Парагваю, з Бразыліі і з усяе Аргентыны, папродаўшы хаты і варштаты, каб толькі першым транспартам адплысьці ў СССР.

Некаторыя прасядзелі на сваіх валізках да 10-ці гадоў . . . Уканцы савецкае ашуканства пачало вылазіць з усіх бакоў: махлярства з пашпартамі, з транспартам і інш. І даходзілі галасы перасьцярогі з Эўропы і ўканцы паказаліся вяртанцы з СССР. Тады шмат нашых людзей пашло на працу як партовыя работнікі або заняліся якімсь рамяслом «на сваю руку».

І гэтым тлумачыцца факт, што з паўсотні беларусаў, асабліва каталікоў, можна было спаткаць на плошчы ў дзень гэтае ўрачыстасьці.

2) *Асноўныя Каталіцкія Арганізацыі.*

Наагул Аргентына прыймае эміграцтаў — у першую чаргу каталікоў, а пасьля крыху і іншых хрысьціянаў. Да не-хрысьціян адносяцца з засьцярогай. Хрысьціяне маюць узаемны давер і лучнасьць. А большыя злачынствы выходзілі не ад хрысьціян, пры-

кладам, гандаль «жывым таварам» калісь вялі жыды, а дывэрсіі робяць камуністы.

Эмігранты-каталікі маюць свае этнічныя касьцельныя арганізацыі і парахвіі. Каталікі-беларусы ня маюць сваіх парахвіяў, а рассыпаюцца па іншых: з палякамі, зь летувісамі, з украінцамі, італьянцамі, або належаць да першае парахвіі бяз выбару.

Да гэтай пары зарэестраваны ў Сьвятыні Маці Божае Эмігрантаў 34 народныя групы. Беларусы яшчэ не запісаліся, але ўжо бяруць актыўны удзел і напэўна будуць карыстаць з установаў гэтага касьцёла.

3) *Чым розьніцца Касьцёл Эмігрантаў ад іншых?*

Будынак сьвятыні: ультра-мадэрны стыль канструкцыі ня розьніцца ад іншых сучасных касьцёлаў. Але розныя ўстановы пры ім надаюць асаблівы характар і значэньне для эмігрантаў. На першы плян выступаюць школы: яслі, пачатковая і 3 сярэднія — агульная, тэхнічная і чужых моваў.

Тэхнічная — праектуе, апрача праграмы для моладзі, давучаньне дарослых эмігрантаў, каб даць дыплём сярэдняй тэхнічнай асьветы для тых, хто мае ўжо падрыхтоўку са свайго краю (нострыфікацыя) і хто хоча павысіць свае кваліфікацыі.

Школа чужаземных моваў дае перш гішпанскую мову, а наступна кожная група мае навучаць сваю роднуюмову! Такім чынам — гэта бадай першая ў сьвеце краіна, якая клапоціцца аб навучаньні родных моваў.

У гэтай справе быў я на інтэрвью 5. XII. 1967, каб выясьніць справу беларускае мовы. Парахвія чакае на беларусаў, каб рэестравалі сваю групу пад № 34. Пасьля трэ падаць кандыдатаў на настаўнікаў і магчыма зарганізаваць бацькаўскі камітэт, каб усталіць, якую жадаюць школу: суботня-нядзельную ці сталую, у залежнасьці, калі дзеці маюць час. Трэба аднак лічыцца, што гэта пачаткі, але ўжо самы факт — годны ўвагі.

Другі факт, што нашыя людзі ахвотна пасылаюць дзяцей у законныя школы, хоць самі часам бываюць няверучыя. Бо тут настаўнікі і манашкі падыходзяць індывідуальна да кожнага дзіцяці, каб яго належна выхаваць у школе і паза школай. Асабліва, калі бацька на працы, дык хоча мець дзяцей пад сталай апекай.

І яшчэ паважная ўстанова — мэдыцынская помач: паліклініка зубная, дзіцячая і для матак. Мужчыны маюць сваіх мэдыкаў на мейсцы працы.

З мэдыцынкай установай мае сувязь *спорт*. Будуюцца адпаведныя салі з прыладамі і шукуюцца пляцы на вольным паветры.

І ўканцы пры касьцеле сацыяльна-парахвіяльная ўстанова. Тут таксама шмат карыснага і цікавага: разважаюцца праблемы народных звычаяў, ладзяцца культурна-асьветныя вечары, разрашаюцца пытаньні рэлігійныя, сямейныя, мастацкія і юрыдычныя справы — адным словам, праблемы этнічнае эмігранцкае сям'і, каб ня чулася тут чужою.

І на кожным кроку зазначаюць, што Аргентына — гэта край эмігрантаў.

У гэтым-жа касьцеле ёсьць пры аўтары мейсца, дзе кожная група складае крыху сваей зямлі... Каторы парадкавы нумар займе беларуская група, яшчэ невядома.

І ад гэтай нядзелі (3. XII. 1967) пачынаюцца набажэнствы: у мове гішпанскай і ў мове народнай групы паводле ўсталенага парадку. Калі будзе першая беларуская Сьвятая Імша, яшчэ таксама невядома, бо гэта-ж яшчэ першыя дні існаваньня такой сьвятыні!

4) *Супрацоўніцтва зь іншымі рэлігіямі.*

Асаблівае супрацоўніцтва прадбачаецца з хрысьціянамі іншых веравызнаньняў: з праваслаўнымі і пратэстантамі. Да гэтай пары ў Аргентыне здаўна каталіцкае духавенства памагала праваслаўнаму — матар'яльна і арганізацыйна, каб сьвятары маглі адведваць сваіх вернікаў, заладжваць царкоўную службу і інш. (Аднак у гэтым падзеле беларусаў існуе вялікая нявыгода, што ня могуць склеіць аднэй рэлігійна-грамадзкай групы, дый разьбіваюцца і дзеляцца — то да расейцаў, то да палякаў!).

5) *Як паўстала ідэя Касьцёла Маці Божае Эмігрантаў?*

Пачатак быў за часаў Папы Пія XII, калі шмат людзей сталася бежанцамі ці эмігрантамі. Тады вось знайшлі супольную мову мастакі і работнікі, сьвятары і архітэкты. Абраз (скульптурны рэльеф каля 3 м. вышыні) Маці Божай Эмігрантаў выканаў мастак у Міляно; карбідку-каганец, як сымбаль асьвечаньня дарогі, зрабіў бэльгійскі шахцёр. Высьвяціў абраз арцыбіскуп Монтіні (цяперашні Папа Павал VI) і каранаваў Божую Маці і Дзіцятка-Хрыста 2-ма залатымі каронамі Папа Пій XII, 9. VIII. 1955. Гэта было ў Італіі. А горад Буэнос Айрэс падараваў пляц. Пасьля падаравалі абраз зь Міляну для першай сьвятыні Эмігрантаў. І шмат мастакоў, дэкаратараў,

# Думкі з кнігі „Сьледам за Хрыстом“

О, як хутка мінае слава сьвету!.. — Сапраўды вялікі, хто мае любоў вялікую.

Сапраўды вялікі, хто сябе лічыць малым, а ўсю славу сьвету мае за нішто.

Сапраўды разумны, хто *ўсё лічыць с т р а т а й, каб выслужыць сабе Хрыста.* (Філіп. 3, 8).

А сапраўды вучоны, хто спаўняе волю Бога, а сваей волі выракаецца.

На жаль, мы такія слабыя, што часта аб другіх лягчэй думаем і кажам блага, чымся добра.

Вялікая мудрасьць у тым, каб не сьпяшацца лішне ў дзеяньні і каб ня трымацца ўпорыста сваіх думак.

Пытайся чалавека разумнага і сумленнага і лепш вучыся ад лепшага, чымся кіравацца маеш сваімі дагадкамі.

Чым больш чалавек пакорны і паслушны Богу, тым ён у-ва ўсім будзе разумнейшы і спакайнейшы.

Не гардзіся сілай ці хараством цела, якое найменшая хвароба можа папсуць і абрыдзіць.

Не хваліся тваім спрытам або розумам, каб праз гэта ня стаўся ты нямілым Богу, якому ўсё належыць, што маеш добрага ад прыроды.

Ня думай, што ты лепшы ад іншых, каб не аказаўся ты горшым перад Богам, які ведае, што ёсьць у чалавеку.

Ня шкодзіла-б, калі-б ты лічыў сябе горшым ад усіх, але дужа шкодзіла-б, калі-б ты лічыў сябе лепшым хоцьбы за аднаго каго.

Шмат беспячней слухаць, як загадваць.

Калі аднак паміж намі ёсьць Бог, трэба часам, дзеля дабра супакою, адступіць нам ад сваей думкі.

Хто-ж такі разумны, каб змог ведаць усё дасканальна?

І таму ня трымайся зашмат свайго пагляду, а паслухай ахвотна і чужога розуму.

Часта я чуў, што бесьпячней слухаць і прыймаць рады, чымся радзіць.

Якім чынам здолее вытрываць у супакоі той, хто ўлазе ў чужыя справы?

Калі-б кожны год мы змагалі ў сабе хоцьбы адну толькі загану, хутка ўжо былі-б дасканальнымі.

Зьвярні на сябе самога свае вочы і сьцеражыся судзіць чужыя справы.

Дзеля разнаякасьці поглядаў і думак даволі часта бывае звадка між прыяцелямі, між грамадзянамі, між людзьмі пабожнымі, а на'т і законьнікамі.

Добра робіць, хто больш зважае на дабро грамадзкае, чымся на сваю волю.

Вучыся цярпліва зносіць заганы іншых ды ўсякія іх нядужасьці, таму што і ты шмат іх маеш, якія трэба зносіць іншым.

Хацелі-б мы надта іншых бачыць дасканалымі, а сваіх нястачаў не папраўляем.

Хацелі-б мы, каб іншых срога напаміналі, а каб нас напаміналі — ня хочам.

...нікога няма без заганы, бяз грэху... нікога няма так мудрага, каб у-ва ўсім даў сабе раду, дык трэба, каб узаемна мы адны другіх цешылі, зносілі, памагалі, вучылі ды напаміналі.

---

інжынераў, тэхнікаў, работнікаў аддалі дарма сваю працу. Прадпрыемствы далі бясплатна матар'ял на будову. Вайскавыя часьці ахвяравалі літургічныя і касьцельныя рэчы. Агульная вартасьць усяго складае 100 мільёнаў пэзаў. На гэтым не канец, — відаць, — энтузіязм ахапіў людзей, бо ідэя ёсьць рэальным актам хрысьціянскае веры — дапамагчы эмігранту, як свайму бліжняму! — А Бог багаславіць ахвярных людзей!..

---

## ВАТЫКАН І ВАЙНА

Пры аказіі вайны Ізраіля з 12-ю арабскімі рэспублікамі і каралеўствамі (2 з палав. мільёнаў супраць 50-ці м.), Ватыкан вёў такую палітыку:

1) Найперш — перад канфліктам — заклікаў абедзьве староны да згоды і перамоваў

2) Як пачалася вайна — заклікаў да спыненьня баёў

3) Пасьля барацьбы заклікаў да перамоваў і ўзаемных уступак і да поўнае згоды праціўнікаў.

4) Адразу таксама дамагаўся міжнароднай нэўтральнасьці для Ерусаліму, які ёсьць сьвятым горадам для хрысьціянаў, жыдоў і магамэтанаў. Гэты апэль Рымскага Пасаду падтрымаў Сакратар ААН У Танг і ўрады ангельскі і італьянскі.

5) Ватыкан падтрымаў міжнародную акцыю помачы сваей грашовай ахвярай (50 000 даляраў) і пасылкай лякарстваў, адзежы і прадуктаў.

6) Павал VI заклікаў каталікоў і наагул увесь сьвет памагаць ахвярам вайны, асабліва найбольш пацярпелым у каралеўскае Ярданіі, што былі ўцекачамі з ураджайных земляў за Ярданам, а перабеглі на галодную пустыню.

# З царкоўнага жыцьця

БРАЗЫЛІЯ: Між урадам і Царквою існуе вялікае недаразуменьне: Царква дамагаецца поўнай сацыяльнай рэформы на карысьць работніцкага і сялянскага стану, дасюль вельмі крыўджанага.

Урад аднак адцягвае ўсю справу, хоць канечнасьць рэформы ўзрастае і капіталісты, як сьляпыя, стараюцца памяшаць нават і меншым рэформам. Гэтым, ведама, яны вядуць і народ, і край цэлы, а нават і сябе да эканамічнай і сацыяльнай катастрофы.

Канфэрэнцыя біскупаў ставіць ураду пытаньне: ці рэформа пойдзе з Царквою, ці міма Царквы, ці супраць яе?

Урад адказвае, што абавязкава хоча трымацца з Царквою, але ўсё-ж адцягвае справу . . .

Такая няпэўнасьць надта нэрвуе ўвесь край!

✳

ЁРДАНІЯ: Прадстаўнікі Цэркваў у Ёрданіі — Каталіцкай, Праваслаўнай і Пратэстанцкіх — выдалі перад Калядамі заклік да ўсіх хрысьціян краю — арабаў і мэльхітаў, каб паўстрымаліся ад пілігрымак да Сьвятых Мейсцаў, пакуль яны будуць пад акупацыяй (Ізраэля) і каб падчас усіх сьвятаў маліліся ў сьвятынях краю.

✳

ПАЎДЗЁННАЯ АФРЫКА: Край стаўся слаўным ужо другой дакананай апэрацыяй — замены сэрца хворага сэрцам здаровым памёршага. Праўда, першая апэрацыя (Вашанскі) ня лічыцца цалкам памыснай: на 18-ты дзень хворы памёр!

Другая апэрацыя (у той-жа краіне і той-самы доктар) і 3-яя апэрацыя ў Каліфорніі даводзяць, што перашчапленьне сэрца стаецца магчымым.

Нас тут інтэрэсуе справа маральнага характару: ці такая апэрацыя ня будзе маральна асуджанай, што перафармуе чалавека на другую пэрсону? Бо даецца яму чужое сэрца . . . Аднак ужо ёсьць выдана апінія Царквы, што ў вельмі важнай патрэбе, калі пагражае хвораму сьмерць, магчыма рабіць і такую радыкальную апэрацыю з сэрцамі; бо ўсе чалавечыя органы належаць да сфэры цела, якое можам лячыць і нават кускамі адразаць і замяняць і гэта душы не дэфармуе.

✳

ДАКАР: Прыбыў сюды кардынал Лежэр, які зрокся становішча арцыбіскупа, каб працаваць у Афрыцы між пракажонымі. Ён цяпер аб'язджае ў Афрыцы асяродкі і інстытуты лячэньня пракажоных і выбірае сабе адпаведнае мейсца, здаецца, не найлягчэйшае працы і становішча адно з апошніх у абслузе гэных няшчасных людзей.

✳

ГІШПАНІЯ: Царкоўныя адносіны ў Гішпаніі характэрныя тым, што процант старых біскупаў тут найвышэйшы ў сьвеце, а ў сьвятарстве найбольшы процант маладых. Так што сапраўды біскупы могуць лічыць сябе айцамі, а сьвятароў называць сынамі. Біскупы найлепш надаюцца да захаваньня старых ненарушаных традыцыяў, а сьвятары найбольш уносяць новых паглядаў, а праз гэта і прычыняюць нямала клопатаў . . .

КУБА: Фідэль Кастро візытаваў Апостальскага Дэлегата пры аказіі, калі той быў пасьвячаны на біскупа: з гэтага вынікае, што адносіны між Ватыканам і ўрадам папраўляюцца, хоць урад стаіць на пазыцыі атэізму.

✳

ФРАНЦЫЯ: Сьвятары-мараплаўцы — гэта цяпер яшчэ невялікая група духоўных айцоў, якія зьвязаны з морам і стала прабываюць у падарожжах, нясучы духоўную паслугу падарожнікам.

# З беларускага жыцьця

ЭКСКУРСІЯ Ў БРЫТАНСКІ МУЗЭЙ.

У суботу 25-га лістапада 1967 г. Школа сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане зрабіла надзвычай цікавую экскурсію ў Брытанскі Музэй, у часе якой вучні мелі нагоду пабачыць арыгінальныя пражскія і віленскія выданьні беларускага першадрукара Францішка Скарыны, а таксама другія старыя беларускія кнігі, выданыя ў Вільні ў канцы 16-га і пачатку 17-га стаг. З іншых беларускіх каштоўнасьцяў яны пабачылі першыя выданьні «Гапона» Дуніна-Марцінкевіча, «Нячысьціка» Рыпінскага, «Смыка Беларускага» Багушэвіча і інш.

Усе гэтыя кнігі ёсьць недаступныя для звычайных наведвальнікаў Музэю. Экскурсія была магчымай толькі дзякуючы ветлівасьці кіраўніцтва Брытанскага Музею, а ў асаблівасьці працаўніка Славянскага Аддзелу сп. Т. МакКарты.



*Экскурсія ў Брытанскі Музэй: а. А. Надсон паказвае вучням «Кнігу Царств» выданьня Францішка Скарыны.*

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ЛЁНДАНЕ

Лёнданскі Аддзел ЗБВБ ладзіў сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня ў Беларускім Доме ў суботу 25-га лістапада. Даклад па беларуску прачытаў сакратар Аддзелу сп. А. Лашук. Сп-шня Вера Рыч сказала некалькі слоў па ангельску і зарганізавала мастацкую частку, якая складалася з вершаў беларускіх паэтаў ператлумачаных ёю на ангельскую мову. На заканчэньне было скромнае прыняцьце.

## ЯЛІНКА Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА

У гэтым годзе Школа сьв. Кірыла ладзіла ялінку для беларускіх дзяцей супольна з Лёнданскім Аддзелам ЗБВБ ў нядзелю 17-га сьнежня. Як заўсёды, яна цешылася вялікім посьпехам сярод вялікіх і малых гасьцей. Была кароткая пастаноўка, выступы хору і аркестры і, безумоўна, Дзед Мароз з сваімі памочнікамі. Усе зьвярнулі ўвагу на вялікі поступ вучнёўскай аркестры, якая разьвіваецца памысна пад умелым кіраўніцтвам настаўніка музыкі, а. Рабэрта Тамушанскага.



*Ялінка у Школе сьв. Кірыла: Дзед Мароз і яго памочнікі.*

# Кроніка з жыцьця беларусаў у Чыкаго

22-га студзеня 1967 адбыўся канцэрт музычнай школы праф. Куліковіча ў Чыкаго. Выступала звыш 20 вучняў рознага веку, якія сваей ігрой на фартэпіяне выказалі добры поступ у музыцы. Уканцы Сп-ня Градэ прасьпявала пару песьняў пад акампаньямэнт дзьвюх вучаніц прафэсара. Ролю канфэрансье поўніла Сп-ня В. Рамук.

Падобныя канцэрты раз ці двойчы ў год ладзіць праф. Куліновіч, на якія зыходзяцца ня толькі бацькі вучняў, але і інш., хто цікавіцца музыкай. Пры гэтым выступаюць і дасьведчаныя сьпявакі і музыкі, каб узбагаціць праграму.

З беларускіх дзяцей музыкі вучыцца Ірэна Мароз; а з сем'яў мяшаных Міхась і Оля Валатоўскія, Ірэна Грэч, Юрка Сэнік, Ірэна і Гэнрык Янчэўскія, Лёра Чарняўская ды Тамара Кузьменка.

Канцэрты адбываюцца ў прыгожай салі Латвійскага Грамадзкага Цэнтру.

✳

Між 25-га лютага і 3-га сакавіка 1967 ў Украінскім Доме Моладзі давалі фільм выданы ўкраінцамі Канады пад назв. «Жорсткае Сьвітаньне». Саля была поўная на кожным сэансе. Таксама і беларусы Чыкаго хадзілі пабачыць гэты фільм.

Зьмест фільму: Змаганьне Украінскай Паўстанчай Арміі супраць маскоўскага акупанта пасьля II-ой сусьветнай вайны. У фільме бярэ ўдзел сотня людзей, сэанс трывае тры гадзіны.

Трэба прызнаць, што гэты доўга-мэтражовы гука-каляровы фільм добра апраўдаў сваю мэту.

Было-б пажадана, каб пры нагодзе беларусы і ў іншых асяродках яго пабачылі! Змаганьне, якое вяла ўкраінская армія супраць акупанта з Масквы, хіба мала розьнілася ад баёў, якія вялі і беларусы зь імі.

✳

З нагоды выданьня Генэральнай Асамблеяй Стэйту Іллінойс рэзалюцыі аб падтрыманьні аспірацыяў незалежнасьці Балтыцкіх Народаў, дня 4-га сакавіка 1967 было зладжана прыняцьце ў Латвійскім Грамадзкім Цэнтры, на якое былі запрошаны стэйтовы рэпрэзэнтант Д. Вольф і сэнатар Альбэрт Э. Бэннэт дый прадстаўнікі паняволеных народаў, прэсы і маёр гораду Чыкаго Р. Дэйлі. Ад беларусаў былі прысутныя Др. і Сп-ня Р.

Прамаўлялі предст. Латвіі, Эстоніі і Летувы і самі спонсары рэзалюцыі.

Прыняцьце ладзіла Латвійскае Згуртаваньне ў Чыкаго, пад кіравецтвам старш. Вікснінша, а латвійская моладзь прыгожа выканала некалькі народных танцаў.

✳

10-га сакавіка 1967 адбыўся тут Экумэнічны Вечар Малітваў у салі школы Іозэфінум. Былі і беларускія прадстаўнікі. Супольна маліліся каталікі, праваслаўныя і пратэстанты — усе паводле аднаго тэксту. На зьмену забіралі голас сьвятары розных рэлігіяў. Уканцы паводле альфабэтычнага парадку прадстаўнікі нацыянальных групаў прэзэнтавалі прад аўтаром свае сьцягі. Беларускі сьцяг несьлі — у нац. вопратцы — Ева Кавальчык, Вера Рамук, Нікодым Жызьнеўскі і Мікола Кучура. Калі наша група падыйшла да аўтара, Сп-ня Р. прадставіла сьцяг пры мікрафоне па ангельску: «Госпадзе, гэты сьцяг ёсьць сымбалем укладу ў гэтае грамадзтва культурнай спадчыны і традыцыяў Беларусі».

На салі сярод прысутных быў таксама і а. Янка Тарасэвіч і некалька іншых беларусаў.

✳

18-га сакавіка беларуская група ўзяла ўдзел у пасьвячэньні мейсца пад будову дамоў-жыльля для жыхароў паўночна-заходняй часткі гораду. Перад трыбунай, дзе знайходзіўся мэр гораду Дэйлі, карэспандэнты і прадстаўнікі сьвету рэлігійнага, гандлёвага і навуковага, машыравалі арганізацыі, школы, аркестры і таксама нац. групы: беларусы, ірляндцы, нарвэгі, італьянцы, палякі, немцы, швэды, сэрбы, славакі, мадзяры, мэксыканцы, летувісы і партарыканцы.

Праграма: малітвы катал. і пратэстанскага сьвятароў, прамова маёра гораду, кангрэсмэна і галоўнага праектанта гэтае акругі. Пры канцы мэр пракапаў зямлю і выкінуў першую грудку рыдлёўкай. Пасьля ўсе ўдзельнікі накіраваліся ў салю школы Сьв. Тройцы на каву і на канцэртную частку, якую ставілі розныя школы.

✳

У выбарах мэра гораду ў Чыкаго беларусы ўпяршыню бралі ўдзел і стапрацэнтова падтрымалі кандыдатуру мэра Рычарда Дэйлі, які ўжо 4-ты раз ставіў сваю кандыдатуру і быў выбраны вялізнаю перавагай галасоў, бо на 512 тысяч перамог свайго контр-кандыдата, рэспубліканца.

Дзеля таго, што м. Дэйлі дасюль выказваў вялікія здольнасьці ў кіравецтве і з сымпатыяй адносіўся да паняв. народаў, дык гэтыя народы выбралі спэцыяльны камітэт для падтрыманьня

кандыдатуры м. Дэйлі на гэтыя новыя выбары. У склад камітэту ўваходзілі і беларусы. Мэр меў жаданьне сустрэцца з сябрамі камітэту. Ад беларусаў у народных вопратках зьявілася восем чалавек: усе былі прадстаўлены м. Дэйлі, які цёпла вітаў усіх і дзякаваў за падтрыманьне. Прадстаўнікі нацыяў прамаўлялі таксама: ад беларусаў забралі голас Сп-ня Вера Рамук і Сп-ня М. Салавей.

На заўтра ўсе газэты замясьцілі фото і артыкулы з гэтае сустрэчы. Найбольшым гонарам для беларусаў было, што з усіх 19-ці нац. групаў мэр запрасіў нашага наймалодшага прадстаўніка, 4-х гадовага Янку Рамука, сфатаграфавацца зь ім і з аднэй кубінскай дзяўчынкай для найбольшай газэты ў Чыкаго «The Chicago Tribune», жадаючы адначасна маладому Янку стацца ў будучыні мэрам гораду Чыкага.

І вось 28-га сакавіка зьявілася фото з мэрам Дэйлі, Янкам Рамуком і Пэрфэктай Маранжо з загалоўкам: «Яны хочуць Дэйлі». Пад фото было напісана, што Янка Рамук рэпрэзэнтуе Беларусь (Byelorussia), а Пэрфэкта Маранжо — Кубу.

*

Каб ушанаваць Татаў і Мамаў, Танцавальная Група Беларускай Моладзі 11 чэрвеня 1967 ладзіла Дзень Бацькоў у салі пры царкве Хрыста Спаса. У праграме былі бел. народныя танцы, песьні, музыка і вершы. Пасьля ўсяго гэтага адбыліся агульныя танцы з буфэтам і прыкускамі. Увесь даход пайшоў на касьцюмы для танцораў.

Бралі ўдзел вучні школы праф. Куліковіча, а таксама танцоры і сябры Арганізацыі Белар.-Амэрыканскай Моладзі Стэйту Іллінойс. Адчыніў праграму старшыня Нікодым Жызьнеўскі, а з прывітальным словам да нашых Мамаў-Татаў выступіла Лора Благута. Сп-ня Вера Рамук прасьпявала пад акамп. праф. Куліковіча, «Ды ўжо сонейка», дажынкавую песьню кампазыцыі праф. Куліковіча і народна-лірычную «А ў полі вярба». Ірэнка Рамук сказала вершык «Маці-Беларусі», Эмма Каваленка прасьпявала песьню «Сэрцэ Маткі» (польскую) і «Домінік (францускую). Ірэна Мароз іграла на фартп. «Люблю наш край» і «Ці ўсе лугі пакошаны?». А Габрыеля Багдан «Падаючыя Клаўны». Міхал Багдан, брат Габрыелі, іграў адну амэрык. песьню. Далей Янка Рамук дэклямаваў вершык «Пчолка». Дзяўчаткі з Танцавальнай Групы танцавалі «Кадрыль», «Мікіту» і «Лявоніху».

На заканчэньне Сп. Янчэўскі з сынам адыгралі два клясычныя дуэты на клярнэце і піяно. Усе ўдзельнікі праграмы вывязаліся вельмі добра і ім сапраўды належыцца шчырая падзяка ад Танцав. Гуртка Белар. Моладзі і наагул ад нашага грамадзтва.

Пры канцы праграмы Танцавальны Гурток ушанаваў нашых заслужаных Мамаў — Спадарыняў Аўдокію Жызьнеўскую, Марыю Шпакоўскую і Веру Рамук і нашага грамадзкага Тату — праф Куліковіча, прыпінаючы ім кветкі і даручаючы падаркі.

У часе агульных танцаў і гутарак былі разыграныя ў лятарэі — кружэлка беларускіх танцаў аркестры з Ошава ў Канадзе, дэкарацыйная падушка і дзьве талеркі, якія для Танцавальнай Групы ахвяравала Сп-ня Жызьнеўская.

*

8-га ліпеня адбылося на стадыёне Поля Жаўнера салютаваньне амэрык. сьцягу, у якім узяло ўдзел 10 тысяч матросаў.

На запрошаньне мэр гораду сярод ганаровых гасьцей знайшлося і некалькі сем'яў беларускіх. Праграма была вельмі цікавая і трывала звыш дзьве гадзіны, а ўканцы быў сфармаваны з 10-ці тысячаў матросаў амэрыканскі сьцяг у-ва ўсіх яго калёрах. Усе былі вельмі здаволены з прысутнасьці на гэтакай праграме; а матросы і кіравецтва цешыліся з гледачоў, што сабралася іх нязьмерная колькасьць, каб гэтым падтрымаць дух амэрыканскіх збройных сілаў, што змагаюцца за супакой, вольнасьць і справядлівасьць у Паўдзённым Ветнаме.

*

15 ліпеня адбылася ў Чыкаго парада Тыдня Паняволеных Народаў. Прыймалі ўдзел такія народы: беларусы, баўгары, албанцы, украінцы, палякі, харваты, славакі, чэхі, усходнія немцы, казакі, эстонцы, латышы, летувісы, кітайцы, карэянцы, сэрбы і армяне.

Прыглядалася тысяч 50 народу. Дэманстранты несьлі транспарэнты з дамаганьнямі вольнасьці для паняволеных камунай народаў, а таксама падтрымкі палітыкі Амэрыкі.

На беларускіх плякатах віднеліся такія надпісы: «Дамагаемся вольнасьці і незалежнасьці Беларусі», «Беларусь — краіна Д-ра Францішка Скарыны — пазбаўлена незалежнасьці камуністычнай Расеяй».

Пасьля парады адбыўся банкет у гатэлі Конрад Гільтон. З беларусаў было прысутных 10 чалавек, а ў тым ліку і госьць з Англіі, а. Робарт Тамушанскі. Галоўную прамову на банкеце сказаў кангрэсмэн Раман Пуцінскі. Вось яго словы: «Мы амэрыканцы можам працаваць разам таму, што зьяўляемся вольнымі. Няхай дух, які мы сяньня задэманстравалі, шырыцца на цэлы край і сьвет, бо стварыў Бог людзей, каб былі вольнымі і ніякі камунізм гэтага не заменіць».

*

17-га верасьня ўкраінскае грамадзтва ў Чыкага ладзіла акадэмію з нагоды 50-ці годзьдзя ўкраінскай дзяржавы і 25-ці годздзя украінскай паўстанчай арміі. Прадстаўнікамі ад беларусаў былі Сп. Н. Ж. і Сп-ня В. Р.

*

25-га лістапада адбыўся пратэст супраць прыезду ў Амэрыку з Масквы мітрапаліта Нікадзіма. Беларусы таксама бралі ў гэтым пратэсьце удзел. Мітр. Нікадзім прыехаў з трохтыднёвай візытай з мэтаю нібы хрысьціянскай любові і еднасьці, а па праўдзе, каб шырыць савецкую прапаганду, што ў Савецкім Саюзе існуе быццам вольнасьць рэлігіі.

М. Нікадзім быў госьцям Фэдэрацыі Цэркваў у Чыкаго і на абедзе ладжаным у яго чэсьць у Музэі Мастацтва ў Чыкаго.

Пратэстам кіраваў спэцыяльны камітэт хрысьціянаў, да якога прылучыліся і групы паняволеных народаў. А гадз. 10-ай раніцы камітэт склікаў прэсавую канфэрэнцыю з удзелам газэт, радыё і тэлевізіі, дзе прадставілася занятая пазыцыя пратэстаў; а пасьля сябры камітэту накіраваліся да Музэю Мастацтва, дзе былі ўнесены пратэсты. Сярод пратэстуючых было шмат і сьвятароў. На плякатах бачыліся і такія надпісы: «Нікадзім зьяўляецца чырвоным шпіёнам», «Нікадзім — агент тайнай паліцыі», «Сьвятар у воўчай скуры» і шмат таму падобных.

Калі мітрапаліт праходзіў міма, сабраны народ крычаў: «Нікадзім — чырвоны агент!..»

Пасьля абеду мітр. Нікадзім меў таксама прэсавоую канфэрэнцыю, у часе якой ён падкрэсьліў, што ў Савецкім Саюзе практыкуецца вольнасьць рэлігі; але ўсё-ж прызнаўся, што там праводзіцца антырэлігійная прапаганда, каб перакanаць вернікаў у карысьцях атэізму ды, што яго гэткая прапаганда зусім не кранае і ён не становіцца ёй супраць... *В. Р.*

УВАГА: Няхай-бы папрабаваў стаць ці выступіць супраць атэізму і ў абарону рэлігіі, дык больш ня езьдзіў-бы свабодна па сьвеце! Бо ў савецкай «свабодзе» рэлігія мае завязаныя вусны і ня можа бараніцца ні публічна, ні прыватна. Там атэізм насьміхаецца з рэлігіі, як жыды тварылі зьдзек над укрыжаваным Хрыстом: «Зыйдзі з крыжа, і мы ў Цябе паверым!» Але Хрыстос маўчаў, а на трэці дзень уваскрос! I згінулі тыя, што Яго крыжавалі.

## *З лістоў у рэдакцыю*

НАД МАГІЛАЙ

Прысьвячаецца
Сьв. Памяці Алеся Марговіча

*Тры бярозкі над магілай*
*Стаяць сумна і пахіла —*
*Быццам шэпчуць між сабой*
*Над пакойнай галавой.*

*— Што так рана ён заснуў*
*На шляху выгнаньня,*
*Не зазнаўшы мрояў шчасьця,*
*Не закончыўшы змаганьня? —*

*За ідэі, што любіў,*
*Для якіх жыў і змагаўся,*
*Якім заўжды верны быў,*
*Аж пакуль з жыцьцём растаўся... —*

*— Сьпі спакойна, сябра, мрой!*
*Мы ідзём наперад.*
*Адзінай дружнаю сям'ёй*
*Дасягнем родны бераг!*

---

*Дарагі Ойча Рэдактар!*

У кастрычніку прошлага 1967 году адыйшоў ад нас у вечнасьць адзін з нашых шчырых сяброў, калішні сябра маладзёжнай групы «Дванацатка» і сябра рэдакцыйнае калегіі іхнага часапісу «Наперад!». А цяпер вось я быў на яго-ных паховінах і стаяў над магілай, дзе ён пахаваны. I над гэтай магілай — згодна зь яго жаданьнем — стаяць тры бярозкі, аб якіх ён мроіў і якія асталіся яму вернымі спадарожніцамі.

Вось тут, узрушаны памяцьцю Дарагога Прыяцеля, я напісаў яму гэты маленькі вершык: зьмясьціце яго, калі ласка, у Вашым паважным часапісе «Божым Шляхам»!

*Чэслаў Самотны*

*В. Адважны*

# БАЙКІ

## МУХА І ПЧАЛА

*У садзіку вясной*
*Паўдзённаю парой*
*Гайдалася раз муха на сьцяблінцы.*
*А я праходзіў па гасьцінцы*
*Дый падслухаў,*
*Што да пчалы казала муха:*

*— Ах, пчолка мілая, ты — не лянівa, —*
*Казала муха ганарлівa:*
*— У працы ты сканаеш,*
*А што з таго ты маеш?*
*У кветкі лезь дый лезь! —*
*Пчаляр твой мёд зьбярэ увесь ... —*
*Ты — проста як машына! —*

*— А ты вазьмі жыцьцё мушына:*
*Ніякае работы*
*І ні ахвоты!*
*А хочаш есьці —*
*Старайся у чужое ўлезьці!*
*Што смачнае, здалёку я пачую*
*І перша пакаштую.*

*— Камуну я люблю:*
*З другімі ем і п'ю.*
*Люблю я наглядзець і пагудзець,*
*Як праца вам ідзець,*
*І на чужым карку пасядзець, —*
*І то ў такога дабрадзея,*
*Што век працуе і пацее ... —*

*Пчала ёй кажа: — Мне вядома,*
*Што на дварэ ці дома*
*Цябе усюды праклінаюць*
*І скрозь як шэльму праганяюць. —*

*— Ганяюць, кажаш, што-ж такое?*
*Як гоняць у вакно, дык я — ў другое!*

*

*УВАГА: Пчала мілейша мне:*
*Пчала — у мёдзе, а муха — у г ...*

## ПАРНАС

*Як з Грэцыі вон выгналі багоў,*
*А іхны грунт — багам на шкоду —*
*Дзялілі простаму народу, —*
*Дастаўшы хтось Парнас,*
*Загнаў туды аслоў,*
*Як-то бывае ў нас.*

*Аслы там неяк-жа дазналі,*
*Што Музы тут сьпявалі. —*
*Дык кажуць так: — Ня дарма нас*
*Загналі на Парнас:*
*Як музы ўжо прыеліся людзям,*
*Пара сьпяваць і нам! —*

*— Аслы, крычыць адзін: — Бярыся!*
*Я тон задам, ты — кожны падчапіся. —*
*Ня будзь-жа ты разява. —*
*Нам сьвет увесь дасьць брава!*
*— Як заравець асьліны хор,*
*Паб'ём дзесятку ўсіх Сясьцёр! —*

*Эх, рэзвы хор як заскрыпеў,*
*Разнёсься звонкі сьпеў, —*
*Траскучы дый вясёлы! —*

*Знайшлося ўсё: разьбітыя званы,*
*Нямазаныя колы,*
*Бляшанкі і збаны,*
*Расстроены арган,*
*Падзёрты барабан ...*

*Як гаспадар пачуў, ледзь не самлеў —*
*Скарэй той хор загнаў у хлеў.*

*

*Ёсьць хор у нас такі,*
*(А хто вось разгадае?),*
*Які*
*У хлеў сваей чаргі*
*Аж 50 гадоў чакае!*

Хто чытае, а не плаціць
Сябе гэтым не збагаціць, —
Толькі гонар дарма траціць.



Гонар — дар вялікі Божы —
Дарагі нам і прыгожы:

Рэдактар гонар ваш шануе,
*Але чаму ён так бядуе?*

Чытач, а можа Ты ня дбаеш,
Хоць «БОЖЫ ШЛЯХ» наш і прыймаеш,
Дый не глядзіш і *ня чытаеш?!*

А мы ня будзем лезьці ў вочы:
*Зьвярні, калі чытаць ня хочаш!*
Ці-ж мы надарма ласку носім? —
Прышлі назад — мы шчыра просім!

Ці у пісьме нам дай абвестку —
Прышлі ласкавую павестку, —
Каб мы штось мелі за фатыгу —
$ даляр, £ паў-фунт, ці можа хв . . . ?

Так мы прывыклі да ўсяго
І на 'т да гумару твайго . . .

*Рэдактар а. Я. Г.*

Лёндан, 1. I. 1968.

## ЗАГАДКІ

(Для дзяцей)

АДГАДКІ з № 5 (104), 1967:

1) Месяц сьвеціць, зьмяняючы фазы.
2) Хмара.
3) Уся прырода.
4) Ручны гадзіннік.
5) Плянэта-зямля: кружыць навакол сонца і круціцца сама.

### НОВЫЯ ЗАГАДКІ

1. Чый гэта Юбілей?
   — 30 гадоў раўнавалі людзей,
   кладучы іх на «Пракрустава Ложа».
2. Паўдня падыймаецца і паўдня апускаецца, а ўсё стаіць на месцы?
3. Якая гэта матка, што мае 10 000 дзяцей: ані слова не скажа, а ўвесь дом на ёй трымаецца?
4. Калі расьліна радуецца і сьмяецца, а калі сумуе і паміpае?
5. Калі птушкі весела пяюць, а калі горка плачуць?
6. Хто мае «найвышэйшае» дабро, а не дбае і ня лічыць: Штодня траціць — не пазычыць?
7. Калі курка найбольш хваліцца, а калі найбольш сварыцца?
8. Мае 4-ы нагі, а хадзіць ня ўмее?
9. На вуліцы хлапца спыталіся: «Дзе ты жывеш?» Ён адказаў:
   «Нумар дзесяць на пяць —
   Недалёка шукаць:
   Пад нагамі — хата,
   Над галавой — хата, —
   Там людзей багата,
   А мая — чужая», —
   І хто адгадае?
10. Ці багацеюць Чытачы,
    што не далі падпіскі
    на «Божым Шляхам»? —

(Рэдакцыя просіць зара адгадаць гэтую Загадку)

## АБВЕСТКА

**Беларуская Школа-Інтарнат для хлапцоў імя сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане распачала прыём кандыдатаў на новы 1968—1969 навучальны год. У школу прымаюцца сыны беларускіх бацькоў у веку ад 8 да 11 гадоў.**

**Лік вольных месцаў у школе ёсьць агранічаны і таму бацькі якія жадалі-бы прыслаць туды свайго сына, павінны ў сваім собскім інтарэсе напісаць аб гэтым кіраўніку школы ў як найхутчэйшым часе. Тэрмін складаньня заяваў канчаецца 31-га траўня для кандыдатаў з Англіі і 30 красавіка для кандыдатаў з іншых краінаў. Усе заявы будуць разглядацца ў парадку іхняга атрыманьня.**

**У ўсіх справах зьвязаных з Школаю трэба пісаць на наступны адрас:**

**The Rev. Headmaster**
**St. Cyril's House,**
**41 Holden Road,**
**London, N. 12.**

## ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

### «РАДАСНАЯ ВЕСТКА»

— Ці вы чулі, суседзі? Прийшла радасная вестка, што за гэты год у Беларусі не зачынілі ні аднэй духоўнай сэмінарыі і ні аднаго манастыра!

— Дзякуем табе за «Радасную Вестку»! Сапраўды, гэта было-б вялізнае дзіва, каб у Беларусі было яшчэ што зачыняць...

### БЫВАЛЫ ЦЫНІК

Вярнуўся ў саўгаз з заграпічнай пуцёўкі Бывалы Цынік і гамоніць:

— Ведаеце, грамадзяне? Колькі я па сьвеце бываў, дык чуў і бачыў, што вера ў Бога скрозь выводзіцца. А тут, едучы ў саўгаз, пытаюся нашага каня:

«Ці ты ў Бога верыш?».

А ён спачатку ківае галавой, значыць, кажа: «Веру!» — А пасьля, падумаўшы, круціць галавой направа-лева, значыць, кажа: «Не, ня веру!»

ПРОСТЫ ЧАЛАВЕК: — Ну, нам на каня ні дзівіцца! Бо мы ўжо здаўна ведаем, што аслы, сабакі і сьвіньні ад самага пачатку камуны страцілі ўсялякую веру...

### У ПЕКЛЕ

У пекле вялікі разлад, бо Люцыпар стаіць за Маскву, а Бэльзэбуб — за Пэкін.

Люцыпар: — Ты помні, што тваё мейсца ззаду за мной!

Бэльзэбуб: — А чаму мае быць ззаду?

Люцыпар: — Бо мая дыктатура ў Маскве лічыць 50 год, а твая ў Пэкіне толькі 20 год. І Маскву падтрымліваюць 50 камуністычных партыяў сьвету, а Пэкін — толькі 20.

Бэльзэбуб: — Глупства! У маім адным Кітаю больш камуністаў і атэістаў, як у тваім усім сьвеце: значыць, першае мейсца ў пекле мусіць быць маё!!! Калі ты ня ўступіш, дык я пачну страшэнную рэвалюцыю!...

І падзяліліся чэрці на два лягеры.

### НА ПАРАДЗЕ

Між народам на парадзе паспрачаліся атэіст з сьвятаром.

Атэіст: — Я вам гавару, што Бога няма!

Сьвятар: — А ты дакажы, што Бога няма!

Атэіст: — Гэта-ж навука даказала, што Бога няма. І нашыя астранаўты лятaлі наўкол зямлі на шмат тысяч кілямэтраў у вышыню і анідзе Бога не бачылі.

Сьвятар: — А ты сам навуку бачыў?

Атэіст: — Навукі нельга ўбачыць, бо яна ёсьць філязофія.

Сьвятар: — Гэта ты добра сказаў. Значыць, ёсьць такія справы, якіх нельга вачамі бачыць, а толькі магчыма дайсьці розумам. Ці ты з гэтым згаджаешся?

Атэіст: — О, і хітры ты, поп! Толькі глядзі, каб не папаўся...

## ЗЬМЕСТ




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.